# Права на волю

№17

Верасень 1998

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




# Паход на Русь

**альбо пра тое, як беларускія ўлады хочуць скарыстаць палітычны і эканамічны крызіс у Расіі.**

Пра жнівеньска-верасьнёўскі эканамічны і палітычны крызіс у Расіі пісалі і гаварылі ва ўсім сьвеце. Пра тое ж, што абвал расійскага рубля балюча адбіўся на эканоміцы, на матэрыяльным становішчы насельніцтва бліжэйшага саюзьніка Расіі — Беларусі, пры гэтым не згадвалася. Між тым, арыентаваная на расійскі рынак і прывязаная да расійскага рубля народная гаспадарка Беларусі перажыла ў гэты час ня меншыя ўзрушэньні. Праўда, у адрозьненьне ад грамадзянаў Расіі, якія за апошнія гады прызвычаіліся да пэўнай стабільнасьці сваей валюты, грамадзяне Беларусі якраз наадварот прызвычаіліся да прагрэсіруючай інфляцыі, якая з прыходам прэзідэнта Лукашэнкі амаль не спынялася. Калі расійскі рубель з ліпеня 1994 году (час прыходу А. Лукашэнкі да ўлады) патаньнеў у параўнаньні з даларам у 2-3 разы, то беларускі «зайчык» за гэты ж час — больш чым у 40 разоў...

Расійская апазіцыя, якая, дарэчы, усяляк падтрымлівае Лукашэнку, у сёлетнім жніўні адразу ж забіла ва ўсе званы, пачала лямантаваць пра захаваньне правоў чалавека ў краіне, пра захаваньне правоў укладчыкаў банкаў і наогул «простых грамадзянаў», што пацярпелі ад «абвалу». Скарыстаў момант, каб пахваліцца сваімі «посьпехамі» і прэзідэнт Беларусі. Ёй пэраіў расійскім эканамістам зьвярнуцца да яго па вопыт барацьбы з інфляцыяй. Маўляў, мы свой рубель дэвальвавалі паступова, вось у нас і няма крызісу... Па-першае, крызіс быў: курс «зайчыка» у сёлетнім жніўні таксама ўпаў у два разы (гэта наяўнага, а безнаяўнага — у пяць разоў), а па-другое, подобных «чорных дзён» беларуская валюта, як бы яе ні трымалі ў нейкіх межах улады, перажыла ўжо некалькі. І тады пра правы беларускіх грамадзянаў ды ўкладчыкаў не турбаваўся ніхто: ні свой урад з прэзідэнтам, ні расійскі, ні тым болей расійская апазіцыя...

Зрэшты, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі расіянаў (ні тых, што пры ўладзе, ні тых, што ў апазіцыі) не турбуе даўно. У Расіі нібыта ад пачатку далі Лукашэнку карт-бланш за ягонае імкненьне да аб'яднаньня Беларусі і Расіі ў адную дзяржаву. Маўляў, рабіце што хочаце, праводзьце незаконныя рэферэндумы і выбары, зьбівайце і саджайце ў турмы апазіцыянераў, а мы ня толькі заплюшчым вочы на гэта, але і дапаможам нафтай ды газам, падтрымкай у міжнародных арганізацыях, камітэтах ды камісіях. Дзіўная палітыка, незразумелая з пункту гледжаньня здаровага сэнсу, а тым болей

*(Працяг на стар.2)*

## Хроніка

*У ноч з 31 жніўня на 1 верасьня* ў Віцебску з пляцу перад ваенкаматам зьнік бюст расейскага палкаводца А.Суворава, які ў 1794 годзе патапіў у крыві паўстаньне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі.

*1 верасьня* ў сталіцы Беларусі адбыўся пікет у абарону беларускіх класаў, школаў і ўсёй нацыянальнай адукацыі. Ініцыятарамі правядзеньня пікету выступілі актывісты Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ). Пікет быў выстаўлены ў Міхайлаўскім завулку (ад вул. Ленінградскай да вул.Кірава), непадалёку ад Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту.

*1 верасьня* ў пачатку новага навучальнага года мінскія школьнікі Аляксандр і Зьміцер Іокшы не пайшлі ў школу. Раней браты вучыліся ў беларускіх класах СШ №166 г.Мінска. У 1997-1998 навучальным годзе клас, у якім вучыўся Зьміцер Іокша, быў пераведзены на рускую мову навучаньня. Бацькі былі вымушаныя перавесьці сына ў СШ №48, дзе захаваўся беларускамоўны клас. У РАНА (Раённым аддзеле народнай адукацыі) гарантавалі, што гэты клас не зачыніцца, але праз год клас быў пераведзены на рускую мову навучаньня. Тое самае здарылася і з класам старэйшага брата — Аляксандра. Побач з домам сям'і Іокшаў не знайшлося беларускай школы. Бацькі адмовіліся ад навучаньня сваіх дзяцей на рускай мове, і браты Іокшы не пайшлі ў школу. За гэты ўчынак дзяцей разам з бацькамі выклікалі ў РАУС Фрунзенскага р-на г.Мінска на паседжаньне камісіі па справах непаўналетніх. Бацькі патлумачылі камісіі, што іх дзеці па Канстытуцыі маюць права навучацца на роднай мове. У адказ бацькам было чарговы раз прапанавана зьмяніць школу.

*(працяг на стар.6)*

# Паход на Русь

(Пачатак на стар. 1)

логікі разьвіцьця падзеяў, дэмакратыі і міжнароднага стаўленьня да захаваньня правоў чалавека ў любой краіне, незалежна ад сімпатыяў ці антыпатыяў да ейнага лідэра. Аднак, падобна, нарэшце і ў Расіі пачалі разумець небясьпеку, якую нясе з сабой будучыні іхняе краіны «галоўны інтэгратар» — беларускі прэзідэнт. Нарэшце зразумелі, што словы пра дружбу ды аб'яднаньне — толькі прыгожае прыкрыцьцё ягонае асноўнае мэты — заняць «расейскі прастол». Асабліва яскрава праявілася гэтае жаданьне якраз пад час жнівеньскага крызісу, калі прэзідэнт Беларусі раптам прапанаваў расійскай Думе прыняць padрыхтаваны ім Закон аб двайным грамадзянстве жыхароў Беларусі і Расіі. Двайное грамадзянства трэба менавіта Лукашэнку, каб мець мажлівасьць выставіць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі; пра дабрабыт жа і «сьветлую будучыню» свайго ды суседняга народаў ён думае пры гэтым найменш, альбо зусім ня думае. Не забывае ён толькі расказваць казкі пра росквіт эканомікі Беларусі пры ягоным кіраўніцтве. Бяда ня толькі ў тым, што гэта бесцырымонная хлусьня — бяда ў тым, што ў Расіі знаходзяцца людзі, якія гэтаму вераць... У друку з'яўляюцца публікацыі, якія параўноўваюць цяперашнія падзеі ў Расіі з тым, што адбывалася 300 гадоў таму. Гістарычныя паралелі такія: Барыс Гадуноў — Барыс Ельцын, сямібаяршчына — сямібанкіршчына, Ілжэдзьмітры — ... (самі ведаеце хто)... І гэта становіцца свайго роду ідэалагічнай падтрымкай паходу Лукашэнкі ў Русь...

Крызіс у Расіі, і эканамічны, і палітычны, і крызіс уладаў яшчэ далёка ня скончаны. Пэўна, нідзе ў сьвеце так ня радаваліся абвалу расійскага рубля, адстаўцы ўраду Кірыенкі, безпасьпяховасьці спробаў новага прышэсьця Чарнамырдзіна і абраньню са згоды камуністаў прэм'ер-міністрам Прымакова, як у беларускіх вярхах. Тут было ўспрынята гэта ні больш ні менш, як перамога «прыхільнікаў саюза» над «гэтак званымі дэмакратамі», як асабістая параза Ельцына і як апраўданьне курсу беларускага прэзідэнта на планавы «рынкавы сацыялізм». Невядома пакуль, якім будзе новы расійскі ўрад, але ягонае «пачырваненьне» ужо відавочнае. А значыць, прыхільнікаў Лукашэнкі ў расійскіх вярхах прыбудзе, і ўсё менш застаецца надзеяў на тое, што расійскія кіраўнікі, нарэшце, пакінуць палітычныя гульні з Лукашэнкам і ўсур'ёз зацікавяцца становішчам з захаваньнем правоў чалавека ў Беларусі і адмяжуюцца ад дыктатара і ягоных планаў.

**Андрэй НАЛІВА**

# Справа Уладзіміра Плешчанкі

Як ужо паведамлялася, 2 верасьня Уладзімір Плешчанка, старшыня віцебскай Рады БНФ «Выбар», быў затрыманы міліцыяй і абвінавачаны ў дэмантажы бюста расейскага палкаводца А. Суворава перад будынкам ваенкамату ў Віцебску. Зараз 50-гадовы У. Плешчанка ўтрымліваецца пад вартай. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па артыкулах КК Рэспублікі Беларусь 201 ч. 2 (злоснае хуліганства) і 225 ч. 2 (пашкоджаньне гістарычных помнікаў).

Сваёй віны Уладзімір Плешчанка не прызнае. У сувязі з гэтым, а таксама па некаторых іншых прычынах ён зьвярнуўся ў Кастрычніцкі раённы суд Віцебска і ў пракуратуру з патрабаваньнем вызваліць яго з-пад варты. Ён лічыць сваё затрыманьне незаконным, як і перасьлед любога іншага чалавека, якога могуць западозрыць у нелюбові да Суворава.

У.Плешчанка заявіў, што ня бачыць «цынізму», пра які кажуць абвінаваўцы, у дэмантажы невядомым Міронам бюста Сувораву: Гэты палкаводзец 200 гадоў таму жорстка падавіў вызвольнае паўстаньне беларусаў, літоўцаў і палякаў, кіраванае Тадэвушам Касьцюшкам. Літоўцы і палякі, «дзякуючы» Сувораву, яшчэ доўга заставаліся паднявольнымі ў Расійскай імперыі, а беларускі народ не можа пазбавіцца залежнасьці ад імперыі й дагэтуль. У. Плешчанка мяркуе, што шматлікія помнікі Сувораву ў Беларусі -- помнікі акупанту.

У. Плешчанка лічыць недарэчным і месца знаходжаньня помніка Сувораву — каля гарваенкамату, бо гэта падкрэслівае, што беларускіх юнакоў улады імкнуцца рыхтаваць для абароны не роднай Беларусі, а тых сілаў, што стагодзьдзямі душылі яе незалежнасьць.

Як паведамілі віцебскія газеты, бюст палкаводца пасля зьняволеньня Плешчанкі быў знойдзены непадалёк ад месца яго зьнікненьня. Насуперак ранейшым сьцьвярджэньням міліцыянераў, бюст аказаўся ня медным (з-за гэтага зьбіраліся прад'явіць яшчэ адно абвінавачаньне -- у крадзяжы маёмасьці па арт. 87 КК РБ), а гіпсавым, пафарбаваным залацістай фарбай.

Тым часам няўлоўны Мірон працягвае дзейнічаць, як і раней. 8 верасьня, у ноч напярэдадні Дня беларускай вайсковай славы, Мірон вывесіў бела-чырвона-белы сьцяг на 50-метровай назіральнай вышцы пры ўезьдзе ў г. Лёзна на шашы Смаленск-Віцебск.

Імя Мірона за апошнія некалькі гадоў стала імем усіх няскораных, сімвалам прагі нацыі да волі. Таму, хто б ня быў Міронам насамрэч, гэта ўжо не настолькі важна. Колькі намаганьняў было прыкладзена дзеля яго вышуку і «абяшкоджаньня»! А сьцягі на заводскіх комінах, дахах будынкаў, высокавольтных лініях працягваюць зьяўляцца! Цалкам верагодна, што нашыя нашчадкі замест бюстаў Сувораву будуць ставіць помнікі Мірону.

**Яна Ждановіч**

**Юрай Касіч**



# «Каб потым не было сорамна...»

У мінулым нумары «Права на Волю» мы распавядалі больш падрабязна, чым жыве сёньня ў калоніі вязень сумленьня Аляксей Шыдлоўскі. Амаль месяц ад Аляксея не было лістоў. 16 верасьня, нарэшце, ягонае маўчаньне скончылася.

Ліст Аляксея пазначаны датай «4 верасьня» -- гэта значыць, да мяне, у суседні раён Мінска, ён ішоў амаль што два тыдні! Увесь гэты час Аляксей не пісаў нават дадому -- дакладней, усе яго лісты «губляліся». «Адразу ж даю дазвол на публікацыю любых цытат і вытрымак, калі яны таго заслужваюць, акрамя вельмі асабістых радкоў», — піша Аляксей. Далей ён распавядае свае турэмныя навіны.

«Спадар атраднік Жэнеўскі ўсё ж сыйшоў з калёніі. Турма ёсьць турма, і адразу папаўзлі плёткі, што быццам ён пайшоў у кантору* і г.д. А яшчэ быў у яго тут сябра, які зволіўся 1,5 месяцы таму, кажуць, што той ужо сядзіць. Як кажуць, за што купіў, за тое і прадаю. Але ў першае вельмі верыцца. Новы атраднік зусім малады і нявопытны. Але такі, нармалёвы. Таму я і хвалююся, каб яго ці не сьпецом сюды кінулі, каб пасьля збыць. Не любяць тут такіх, нармалёвых. Але сп. Жэнеўскі пасьпеў зрабіць апошнюю падлу, па загаду, мабыць. Ён такі направіў мяне на дрэнную вытворчасьць. Зараз палову дня я працую са смалою, клеямі, апілкамі. Канечне, цяжкавата, ды і заробак -- 30-50 тыс. у месяц, але за адмову -- ШЫЗО адразу. Маюся пакрыху. Амаль не пакінулі часу чытаць і пісаць, але выхадныя -- мае. Тут я ўжо адрываюся».

Дарэчы, 2 верасьня артыкул Аляксея Шыдлоўскага надрукавала «Народная Воля». Ужо 3-га, на наступны дзень, яго выклікалі за артыкул да начальства.

Праўда, у момант выкліку Шыдлоўскі разьмешваў амоній з клеем -- вырашыліне чапаць, не замінаць у шкоднай працы на карысьць народнай гаспадаркі...

«Рыхтуюся да зімы, назапашваю цёплыя рэчы. Некаторыя вераць у казкі пра амністыю і не рыхтуюцца. Тым горш для іх». Яшчэ Аляксей распавядае пра надзвычай цікавы выпадак. У калонію, дзе ён адбывае тэрмін, прыехаў чалавек з «хіміі», якому зьмянілі меру ўтрыманьня на больш жорсткую. На «хіміі» у Берастаўвіцкім раёне, паводле яго расповяду, сядзеў хлопец, асуджаны на 1 год за тое, што напісаў на сьцяне калоніі строгага рэжыму ў Ваўкавыску: «Тут месца для Лукашэнкі». Па словах прыбыўшага, той хлопец выйшаў на волю ў красавіку. Магчыма, такі выпадак сапраўды быў. Аляксей піша, што хвалюецца за сваіх родных, якія там, у родных Стоўбцах, баяцца, бо, насамрэч, сваякам «палітычнага» можна ўсялякае пачуць у свой адрас, жывучы пры гэтай уладзе ў гэтым грамадстве. Часам страшна сказаць лішняе слова незалежным ад рэжыму журналістам...

А яшчэ Аляксей Шыдлоўскі даслаў верш.

## Зварот

*Шчанюкі, што прадалі Радзіму,*
*Замяніўшы сваімі бажкамі*
*Бога, адзінага, вечнага, —*
*Маці - зямлю і краіну,*
*І няўжо ж засталася хоць кропля,*
*Хоць кавалачак самы маленькі*
*Вось таго, што завецца СУМЛЕНЬНЕМ,*
*У вашых душах, з мышынае вока?*
*Як Вы можаце жыць без Айчыны?!*
*Як зьбіраецеся перад Ісусам*
*Станавіцца на вечны вы суд?!*
*Як зямля Вас трымае дагэтуль?!*
*Але маці -- Радзіма стрывае*
*І ніколі Вас не пакіне.*
*Бо мы роўныя ўсе перад ёю,*
*Мы -- сыны яе, мы -- яе частка.*

*Шчанюкі, што прадалі Радзіму!*
*Хай жа стане Вам гэтак жа цяжка,*
*Як і ёй, быць чужой, без апекі*
*Быць пакінутаю. Назаўсёды...*

11.05.98 г. СІЗА №1 Мінск.

«Ведаеш, я вось думаў, верагоднасьць таго, што Фронт прыйдзе да ўлады, амаль роўная нулю. Дык чаго ж мы змагаемся?!

Каб пасьля не было сорамна!!!!»

Так заканчваецца той ліст.

**Тацьцяна СЬНІТКО**

* «Канторай», альбо «Канторай Глыбокага Бурэньня», народ яшчэ у часы СССР празваў КДБ.




# «Справа Кудзінава»

Выйшла ў сьвет кніга «Дело Кудинова: громкий процесс, потрясший страну, в документах и фактах» (Минск: Правозащитный центр «Вясна-96», 1998. — 184).

Дэпутат і прадпрымальнік Уладзімір Кудзінаў трапіў за краты ў лютым 1997 года.

У 1992 годзе ў мястэчку Івацэвічы У.Кудзінаў стварыў гандлёва-прамысловае прадпрыемства. Фірма Кудзінава «Івацэвічы» забясьпечвала ў раёне больш за 350 працоўных месцаў. Мяса-малочная прадукцыя, вырабляемая прадпрыемствам, па якасьці была значна вышэйшая, а па кошце таньнейшая за дзяржаўную. Акрамя таго, Уладзімір Кудзінаў уваходзіў у апазіцыйную фракцыю «Грамадзянскае дзеяньне». Ен паставіў подпіс пад зваротам аб пачатку працэдуры імпічменту прэзідэнту РБ А. Лукашэнку ў Канстытуцыйны суд. У адрозненьні ад некаторых дэпутатаў, ён ня зьняў гэты подпіс. Такім людзям прэзідэнт Лукашэнка не даруе. Супраць прадпрымальніка У.Кудзінава была ўзбуджаная крымінальная справа. Яго абвінавацілі ў спробе неаднаразовай дачы хабару службовым асобам — супрацоўнікам ДАІ (арт. 15 ч. 2; арт. 170 ч. 2 КК РБ).

4 жніўня 1997 года ў Барысаўскім раённым судзе адбыўся заключны акт судовага працэсу. Гэты працэс быў яўна сфабрыкаваны. А прысуд — сем гадоў узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. Вярхоўны суд РБ пакінуў прысуд у сіле. На сёньняшні дзень У. Кудзінаў адбывае пакараньне ў калоніі УЖ 15/1 г. Мінска.

Кніга, падрыхтаваная да выданьня Праваабарончым цэнтрам «Вясна-96», дае магчымасьць падрабязна азнаёміцца з усімі акалічнасьцямі «справы Кудзінава».

У кнізе зьмешчаныя артыкулы, прысьвечаныя судоваму працэсу; дакументы, якія фігуравалі ў судзе; грамадскія пратэсты; лісты з-за кратаў да блізкіх і родных; дакументы, якія тычацца дэпутацкай дзейнасьці У. Кудзінава.

Справа Уладзіміра Кудзінава — тыповы прыклад расправы над чалавекам, які не пабаяўся супрацьстаяць дыктатарскай уладзе.

**Алена Лапцёнак**

# Спрэчку гісторыкаў вырашыць толькі гісторыя?

Пакуль што ў ёй спрабуе разабрацца Савецкі суд.

7 верасьня ў Савецкім раённым судзе Мінска адбылося чарговае паседжаньне па грамадзянскай справе, ініцыяванай кандыдатам гістарычных навук Ігарам Кузьняцовым.

Дасьледчык дакументаў аб масавых рэпрэсіях у СССР праз суд вырашыў бараніць свае гонар, годнасьць і прафесійную рэпутацыю. Адказчыкі па справе -- прафесар гісторыі Адам Залескі, а таксама афіцыйная «Народная газета».

Кузьняцоў і Залескі выказваюць супрацьлеглыя погляды на факты «чырвонага тэрору». І.Кузьняцоў на падставе архіўных дакументаў лічыць рэпрэсіі праявай злачыннасьці бальшавіцкага рэжыму. А.Залескі апраўдвае зьнішчэнне мільенаў «ворагаў» і называе ў сваіх публікацыях І.Кузьняцова «очернителем Советской власти».




Яшчэ ў траўні судзьдзя Марына Фёдарава вырашыла высьветліць ісьціну з дапамогаю літаратуразнаўцаў і гісторыкаў -- правесьці 2 экспертызы прац абодвух вучоных-апанентаў. Як стала вядома, эксперты сапраўды працавалі з матэрыяламі Залескага і Кузьняцова, але вынікі атрымаліся дзіўныя. Дзьве экспертызы былі злучаныя ў адну. Экспертную камісію ўзначаліў загадчык кафедры сучаснай беларускай літаратуры Інстытута літаратуры Нацыянальнай Акадэміі навук РБ Сьцяпан Лаўшук. Яму дапамагалі прафесары Аркадзь Жураўскі і Уладзімір Палуян (супрацоўнікі, адпаведна, Інстытута мовазнаўства і Інстытута гісторыі НАН РБ). Заключэньне гэтых экспертаў, датаванае 10-м чэрвеня, дайшло да істца толькі напрыканцы жніўня.

У сваім заключэньні С. Лаўшук, П. Палуян і А. Жураўскі фактычна паўтараюць усе сьцьвярджэньні Адама Залескага, прымаючы ягоны пункт гледжаньня. Абвінавачаньні ў адрас І.Кузьняцова, на думку эксьпертаў, «дапушчальныя ў навуковай палеміцы і, галоўнае, яны адпавядаюць сапраўднасьці».

Такім чынам, тэрор -- гэта, аказваецца, добра і прагрэсіўна?! Сёньня ўвогуле многія ў Беларусі схільныя лічыць падобныя заявы пачаткам вяртаньня да старой ідэалогіі. Ужо ня толькі чарнасоценныя, але і афіцыйныя выданьні рыхтуюць грамадскую думку да высновы пра непазьбежнасьць і «нармальнасьць» масавых рэпрэсіяў супраць іншадумцаў...

На судовым паседжаньні Ігар Кузьняцоў хадайнічаў аб адмене вынікаў экспертызы. Ісьцец прывёў доказы яе неаб'ектыўнасьці, незаконнасьці і некампетэнтнасьці.

Па-першае, ніхто з экспертаў ніколі не дасьледваў тэму рэпрэсіяў савецкага часу. Па-другое, сёньня ў Беларусі няма (і, напэўна, ня хутка будзе) афіцыйнай ацэнкі «чырвонага тэрору». Гэта ў суседняй Расіі афіцыйна ўведзеная ў навуковы абарот лічба ў 21,5 мільенаў ахвяраў Савецкае ўлады. Шэраг указаў расійскага прэзідэнта адмяняе сталінскія рашэньні -- колішнія «ворагі народа», у тым ліку ўдзельнікі антыбальшавіцкіх паўстаньняў, рэабілітаваныя.

Улады Беларусі пра тыя падзеі ўпарта маўчаць...

Падчас суда былі выяўленыя адкрытыя падтасоўкі. Так, па словах Кузьняцова, на ўдзел у дадзенай экспертызе тройку экспертаў упаўнаважвалі не дырэктары інстытутаў, дзе тыя працуюць, і нават не загадчык аддзела гуманітарных навук. У абыход адказных асобаў менавіта С.Лаўшука, У. Палуяна і А. Жураўскага прызначыў экспертамі віцэ-прэзідэнт НАН — Валатоўскі, біяфізік па сьпецыяльнасьці. Да справы быў далучаны і ліст Кузьняцову да кіраўніцтва Акадэміі Навук, які сьведчыць аб некампетэнтнасьці эксьпертызы, а таксама незаконнасьці яе арганізацыі.

Акрамя таго, двое з трох абаронцаў Залескага -- У. Палуян і А. Жураўскі -- уваходзяць у таварыства «Гістарычныя веды», якім кіруе ні хто іншы, як адказчык. Неаднойчы яны разам падпісвалі нават палітычныя звароты ў афіцыйным друку, аднагалосна дэманструючы адзінства поглядаў (і лаяльнасьць сёньняшняму рэжыму -- таксама). Таму іншых высноваў ад гэтых людзей нельга было і чакаць. А пра тое, каго варта было б выслухаць суду ў гэтай справе, у істца спытаць «забыліся»...

Прафесар А. Залескі і прадстаўнік «Народнай газеты» Юрый Дудзінаў пратэставалі супраць хадайніцтва І.Кузьняцова. Адам Залескі заявіў таксама, што бальшавікі зьнішчылі не 21,5 мільёна чалавек, а «усяго» 8 мільёнаў, спаслаўшыся на «навейшыя дадзеныя Расійскай Акадэміі Навук».

У той жа час Залескі лічыць, што Расія для навукоўца -- не аўтарытэт, бо «расійскі ўрад узначальвае буржуазную расійскую дзяржаву, якая ўсяляк імкнецца зганьбіць зьвергнутую савецкую ўладу.»

Судзьдзя М. Фёдарава, аднак, знайшла доказы, прыведзеныя істцом, абгрунтаванымі. Згодна з артыкуламі 19 і 20 Грамадзянскага кодэксу РБ, эксперты, як і судзьдзі, ня могуць браць удзел у судовых справах, маючы асабістую зацікаўленасьць у яе выніках.

Такім чынам «справа гісторыкаў» і рызыкуе зацягнуцца надоўга. Чаму?

Пакуль «суд ды справа», у афіцыйнай прэсе зьяўляюцца ўсё новыя матэрыялы пра істца, якога абвінавачваюць у «плагіяце», «ненавуковым падыходзе» і разыходжаньні з «сучаснай палітыкай Рэспублікі Беларусь». Не маючы магчымасьці весьці палеміку з аўтарамі гэтых публікацый на старонках тых газет, якія іх друкуюць, І.Кузьняцоў мусіў прыкласьці да справы і гэтыя артыкулы. Да А. Залескага і «НГ» далучыўся трэці адказчык -- газета «Славянскі набат».

Пры гэтым Ю. Дудзінаў з «НГ» даў зразумець у судзе, што артыкулы супраць істца ў дзяржаўным друку будуць зьяўляцца і надалей.

Гэта значыць: ва ўсіх грахах будуць вінаваціць тых, хто хоча казаць праўду пра нашае мінулае і будучыню.

**Тацьцяна Сьнітко**

# «Хацеў частку віны ўзваліць на другога...»

## Яшчэ раз пра сьмяротнае пакараньне

Тэма сьмяротнага пакараньня становіцца ўсё больш актуальнай для нашага грамадства.

У Праваабарончы цэнтр «Вясна-96» усё часьцей пачалі зьвяртацца грамадзяне, якія згубілі апошнюю надзею на перагляды прысуду, на праверку фактаў з крымінальных спраў, на выклік сьведкаў па справах. Мы бачым, што сьледчыя органы па крымінальных справах ставяцца ў вельмі жорсткія часовыя рамкі, і вось гэтая сьпешка не дазваляе на больш высокім прафесійным узроўні займацца даследваньнем.

11 верасьня 1997 года судовая калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда пад старшынствам Дзядкоўскай С.Я. разглядала справу Бялова Юрыя, Капусьціна Анатоля і Забабурына Сяргея, якія абвінавачваліся ў крадзяжы маёмасьці і забойствах.

Былі вынесены наступныя прысуды:

1. Бялова Юрыя на падставе артыкула 89 часткі другой КК Рэспублікі Беларусь да 8 гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці і адбыцьцём пакараньня ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яго ж па артыкулу 191 ч. 3 КК, 100 п «а», «е» КК апраўдалі.

2. Капусьціна Анатоля суд прызнаў вінаватым у крадзяжы маёмасьці і асобных дакументаў, злачынным нападзе па папярэдняй змове групай асоб, з нанясеньнем цяжкіх цялесных пашкоджаньняў і прысваеньнем маёмасьці ў буйным памеры, пагрозе забойства асобе ў сувязі з ажыцьцяўленьнем службовай дзейнасьці, незаконным пазбаўленьнем волі метадам небясьпечным для жыцьця і здароўя пацярпелага, зьвязаным з фізічнымі пакутамі, а таксама ва ўмысным забойстве, забойстве з карысьлівай мэтай асобай, якая раней зьдзейсьніла забойства.

Прысуд па артыкулах 87 ч. 1, 191 ч. 3, 189 ч. 1, 124 ч. 2, 89 ч. 2, а па арт. 100 п. «а», «е», «з» КК -- сьмяротнае пакараньне, растрэл з канфіскацыяй маёмасьці.

3. Забабурына Сяргея таксама прызналі віноўным у забойстве, махлярстве і незаконным вырабе і нашэньні агнястрэльнай зброі. Прысуд: сьмяротнае пакараньне -- расстрэл з канфіскацыяй маёмасьці.

У праваабарончы цэнтр «Вясна-96» зьвярнуліся бацькі Забабурына Сяргея, якім прадставілі сьведчаньні таго, што іх сын на самой справе не зьяўляўся забойцам.

Калі азнаёміцца з абвінавачваньнем, то можна адразу адзначыць, што сьледства абапіралася на паказаньні Капусьціна А.і Бялова Ю. (якія даводзіліся адзін аднаму сваякамі), прычым Бялоў Юрый быў у вельмі нецьвярозым стане.

Але што адбылося на самой справе?

У 1995 годзе 20-гадовы Сяргей Забабурын, правучыўшыся 2 курсы ў Разанскім дэсантным ваенным вучылішчы, прыехаў у Віцебск, дзе жыла ягоная бабуля. Там ён пазнаёміўся з Капусьціным Анатолем, якому было ўжо за 30, які ўжо меў сям'ю. Аднойчы нехта Тамашоў абрабаваў кватэру Капусьціна. Капусьцін узяў Забабурына і яшчэ некалькі сяброў. Яны захапілі Тамашова і даставілі ў гараж. Там яму зьвязалі рукі, завязалі рот і пакінулі яго ў такім стане ў яме. Надвор'е у той час было -- 40°.

Праз 2 дні, калі Капусьцін вярнуўся ў гараж, Тамашоў быў ужо мёртвы. Капусьцін адвёз цела ў яр, абліў бензінам і спаліў яго.

Праз нейкі час, 1 сакавіка 1996 года, Капусьцін, Забабурын і Бялоў пілі ў рэстаране «Зялёна Гура», потым вырашылі паехаць на вёску па мяса для шашлыкоў. На стаянцы селі ў «Жыгулі» прыватніка-кіроўцы Савіцкага. Побач з кіроўцам сеў Капусьцін. Калі выехалі за горад, Савіцкаму было загадана выйсьці з машыны, пасьля чаго ён быў забіты.

На сьледстве Забабурын сваю віну не прызнаў. Яго адвакаты пісалі скаргі і ў Савет Бясьпекі, і ў Генеральную пракуратуру, і ў Вярхоўны суд, але ўсё бязвынікова.

Анатоль Капусьцін з камеры сьмертнікаў перадаў ліст, у якім ён піша, што ў ходзе сьледства ў судзе ён агаварыў Забабурына, таму што баяўся адзін несьці адказнасьць за забойствы. Вось толькі некаторыя фрагменты з ліста Капусьціна: «Па эпізоду гібелі Тамашова У. я наўмысна агаварыў Забабурына С.А. у тым, што ён дапамагаў мне зьвязваць Тамашова, а потым вывозіць ягоны труп для крэмацыі. Я хацеў частку віны за сьмерць Тамашова ўзваліць на Забабурына С., таму што бачыў, што па эпізоду з забойствам Савіцкага сьледства больш верыць нашым з Бяловым, паказаньням, якія на самай справе зьяўляюцца няверными». «...Я ня ведаю, чаму сьледства і суд так легка паверылі ў паказаньні Бялова, якія ён даваў яшчэ ў нецьвярозым стане, маім паказаньням па Тамашову У. Заяўляю: Забабурын Сяргей Анатольевіч не вінаваты ні ў адным абвінавачваньні ў забойстве, Тамашова я сам зьвязаў і сам вывозіў ягоны труп за горад, Савіцкага я сам застрэліў з абрэза, але гэта і так відаць па справе, але агаварыў Забабурына С. у зьдзяйсьненьні гэтых злачынстваў, каб пазьбегнуць адказнасьці».

Але судовыя інстанцыі ніякім чынам не рэагуюць на гэтае прызнаньне. Таму зараз «Вясна-96» узялася за вырашэньне гэтай справы і спадзяецца на станоўчыя вынікі.

У апошні час мы атрымалі лісты з камеры сьмертнікаў і ад Івана Фаміна (пра якога мы ўжо распавядалі № 11, 1998 г. ), і ад Забабурына, і ад Праціраева, і яшчэ ад чатырох чалавек, якія просяць абараніць іх права на жыцьцё. Гэтыя людзі могуць быць растраляныя ў хуткім часе.

Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» лічыць неабходным даводзіць да сьвядомасьці людзей неабходнасьць адмаўленьня ад сьмяротнага пакараньня. Такія выданні, як «Савецкая Беларусь», «Народная газета», і «Знамя Юности» сваімі публікацыямі па справах, зьвязаных з забойствамі, фармуюць у чытачоў вобраз ворага. Аўтары ўвесь час выдумляюць тое, чаго нават увогуле не было, таму гэтыя артыкулы па свайму зьместу часам нагадваюць трылер. Афіцыйныя СМІ не дазваляюць грамадству ведаць фактычную сітуацыю ў праваахоўных органах, аб умовах утрыманьня ў месцах пазбаўленьня волі, аб колькасьці адменаў прысудаў па крымінальных справах, аб сьмяротнасьці сярод асуджаных. І з гэтым нельга не лічыцца на сённяшні дзень.

**Л.Солтан**



# Падзеі. Факты. Каментарыі

(Пачатак на стар.1)

*2 верасьня* трое сяброў Віцебскай Рады БНФ — Уладзімір Плешчанка, Барыс Хамайда і Юры Карпаў — былі затрыманыя. Іх падазраюць ва ўдзеле ў справе, зьвязанай са зьнікненьнем бюста расейскага палкаводца А.Суворава ў Віцебску. Пасьля затрыманьня Б.Хамайду і Ю. Карпава даставілі ў РАУС у якасьці сьведкаў. Супраць Уладзіміра Плешчанкі была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 225 КК РБ: «зьнішчэньне гісторыка-культурных каштоўнасьцяў (2 гады папраўчых работ альбо штраф), а таксама арт. 87 КК РБ: «крадзёж маёмасьці» (да трох гадоў папраўчых работ альбо штраф). 3 верасьня Уладзімір Плешчанка быў затрыманы на трое сутак паводле арт. 119 КК РБ, а пасьля накіраваны ў СІЗА г. Віцебска, дзе і знаходзіцца па сёньняшні дзень.

*2 верасьня* 1998 года былы студэнт Дзяржаўнага ўніверсітэту радыёэлектронікі і інфарматыкі Алесь Мухін папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы. 28 сакавіка 1998 года Алесь Мухін быў выключаны з універсітэту за свае палітычныя погляды. 28 лютага 1998 года Алесь Мухін разам са сваімі сябрамі Андрэем Гілевічам і Паўлам Мурашкам, вяртаючыся з канцэрта беларускага рок-гурта «NRM», напісалі на сьценах дамоў і на агароджах лозунгі кшталту «Жыве Беларусь» і «Луку на муку». Каля надпісаў яны зьмяшчалі выяву нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга. Студэнты былі затрыманыя міліцэйскім патрулём. 18 траўня 1998 г. суд Цэнтральнага раёну г. Мінска разглядзеў справу А. Мухіна, А. Гілевіча і непаўналетняга П. Мурашкі. Суд прызнаў усіх трох вінаватымі. Прысуд — пазбаўленьне волі на год умоўна з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на год.

*2 верасьня* раптоўна памёр дэкан грэка-каталіцкай царквы, настаяцель прыходу сьв. Язэпа айцец Ян Матусевіч. Айцец Ян Матусевіч быў першым ў Беларусі грэка-каталіцкім сьвятаром, ён узначаліў адраджэньне ўніяцкай царквы, да якой належала ў свой час 80 працэнтаў беларусаў. Айцец Ян Матусевіч быў членам Біблейскага таварыства, актыўна ўдзельнічаў у працы Таварыства Беларускай мовы. Ішоў на чале першага Чарнобыльскага шляху ў 1989 г.

*3 верасьня* ў 14.30 каля Мінскага завода халадзільнікаў Валянціна Каралёва і Кацярына Гаравая — актывісты «Хартыі-97» і сябры Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі — раздавалі рабочым, якія ішлі дамоў з працы, газету Свабоднага прафсаюза «Рабочий.» Нягледзячы на тое, што адбывалася гэта па-за тэрыторыяй завода, да жанчын падыйшлі прадстаўнікі адміністрацыі ў суправаджэньні ахоўніка і ў грубай форме запатрабавалі спыніць раздачу газет. Пры гэтым прадстаўнікі адміністрацыі завода не назвалі свае прозьвішчы і пасады.

Ноччу *7 верасьня* 1998 г. каля Мінскага аўтамабільнага завода (МАЗа) былі затрыманыя 17-гадовы выпускнік мінскай школы №33 Цімафей Дранчук і студэнт Тэхналагічнага ўніверсітэту Яўген Скочка. Незадоўга перад гэтым на браме каля прахадной МАЗа быў зроблены надпіс «Хартия-97 — власть народа!» Ц.Дранчук і Я.Скочка былі дастаўленыя ў РАУС Заводскага раёну г. Мінска, дзе іх пратрымалі да раніцы. У 11 гадзінаў раніцы 8 верасьня адбыўся суд, які вызначыў наступныя меры пакараньня: непаўналетняму Ц.Дранчуку — штраф у памеры 400 тыс.бел. руб. (каля 5 амерыканскіх долараў), а Яўгену Скочку — 10 сутак адміністратыўнага арышту. Іх дзеяньні былі кваліфікаваныя як «дробнае хуліганства». Справа мела адміністратыўны характар. Яўген Скочка ў зале суда абвясьціў сухую галадоўку. Цімафей Дранчук пасьля суда быў дастаўлены ў РАУС Заводскага раёну, дзе з яго ўзялі распіску аб тым, што ён ня будзе прымаць удзелу ў мітынгу і шэсьці 8 верасьня, прысьвечаных бітве пад Оршай.

У ноч з *7 на 8 верасьня* на назіральнай вышцы пры ўезьдзе ў г.Лёзна зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг.

*8 верасьня* ў Мінску адбыўся адбыўся мітынг і шэсьце, прысьвечаныя, дню Беларускай Вайсковай славы.

З *9 па 13 верасьня* 1998 г. актывістамі грамадскага руху «Хартыя-97» быў праведзены чарговы шэраг пікетаў у абарону правоў чалавека, за грамадзянскія свабоды і супраць дыктатуры ў краіне. Пікеты былі выстаўленыя ў розных раёнах г. Мінска. Удзельнікі пікетаў раздавалі людзям газету свабоднага прафсаюза «Рабочий», зварот «Хартыі-97» да грамадзянаў Беларусі, тлумачылі асноўныя правы і свабоды. Актывісты грамадскага руху таксама зьбіралі подпісы пад тэкстам «Хартыі-97», у якім сказана: -- «Мы заяўляем сёньня аб сваёй адказнасьці за лёс краіны, за будучыню нашых дзяцей. Мы зробім Беларусь вольнай, незалежнай, квітнеючай еўрапейскай дзяржавай, дзе абароненыя правы чалавека, дзе няма палітзьняволеных, дзе ўсе маюць годныя правы для жыцьця».

# Грамадскасць Беларусі занепакоеная станам нацыянальнай адукацыі

Ідзе трэцяя гадавіна выкараненьня беларускай мовы з навучальных установ краіны. Ліквідуюцца беларускамоўныя садкі і класы. За тры гады колькасьць першакласьнікаў, якія пайшлі ў класы з беларускай мовай навучаньня скарацілася ў два з паловай разы.

Пад час сустрэчы прэзідэнта РБ з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменьнікаў 5 жніўня 1998 г. А.Лукашэнка сказаў: «Для мяне, як для палітыка пытаньне двухмоўя ўжо вырашанае: у Беларусі роўнасьць моў — і рускай, і беларускай. І калі недзе дзікасьці нейкія праяўляюцца, хтосьці з чыноўнікаў забараніў беларускую мову, і беларускія класы, даў каманду на згортваньне вывучэньня беларускай мовы, робіць націск на бацькоў — рашуча буду спыняць, нават калі гэта адзінкавыя факты».

Але выказваньне прэзідэнта РБ супярэчыць фактам, якія сьведчаць аб тым, што калі ў 1994 г. у Мінску з 240 школаў 136 мелі статус беларускіх, то на сёньняшні дзень знайсьці беларускую школу ў сталіцы Беларусі — вялікая праблема, беларускія класы зачыняюцца адзін за адным.

У грамадскую прыёмную праваабарончага цэнтра «Вясна-96» зьвярнуўся Леанід Кудзін — жыхар Фрунзенскага раёна беларускай сталіцы. Яго сыну, вучню 5«А» класа №96 г. Мінску Аляксандру Кудзіну адмоўлена ў праве атрымліваць адукацыю на роднай мове.

Чатыры гады Аляксандр Кудзін вучыўся ў беларускім класе з паглыбленым вывучэньнем англійскай мовы. На пачатаку новага 1998-1999 навучальнага года адбыўся сход, на якім бацькі былі пастаўленыя перад фактам — класны кіраўнік Людміла Мікалаеўна Крамнёва сказала, што клас пераводзіцца на рускую мову навучаньня. Бацькам патлумачылі, што гэта абумоўлена тым, што ствараецца «моцны клас», дзе застануцца толькі самыя здольныя вучні. З прамовы класнага кіраўніка, настаўніцы англійскай мовы, вынікала, што здольным вучням ведаць родную мову неабавязкова. Атрымалася, што бацькам і вучням трэба выбіраць паміж англійскай і беларускай мовай. Хочаш ведаць англійскую мову? Мусіш забыць пра беларускую!

Аляксандр Кудзін добра вучыцца, таму аўтаматычна трапіў у «моцны клас», але Леанід Кудзін, яго бацька, не пагадзіўся з тым, што сын вымушаны вучыцца на рускай мове. Кіраўніцтва школы №96 прапанавала бацькам Аляксандра Кудзіна адно — перавесьці сына ў другую школу, да якой нязручна дабірацца. Леанід Кудзін гаворыць аб тым, што яго вельмі хвалюе сітуацыя, якая склалася вакол беларускіх класаў ў СШ №96. Варта адзначыць, што ў гэтай самай школе вучыцца яго малодшая дачка.

У свой час Леанід Кудзін сам заканчваў беларускую школу і хацеў, каб яго дзеці атрымалі адукацыю на роднай мове. Леанід Кудзін узгадвае, што, калі чатыры гады назад яго сын пайшоў у школу, усе першыя класы былі беларускія.

Становішча з беларускімі класамі ў сталіцы Беларусі пагаршаецца з кожным днём. Беларускія класы зьнікаюць адзін за другім.

У Праваабарончы цэнтр «Вясна-96» зьвярнуўся Гарніцкі Андрэй Аляксандравіч, сын якога пайшоў у новым навучальным годзе ў першы клас з беларускай мовай навучаньня СШ № 210 г. Мінска. Гэта быў адзіны беларускі клас у мікрараёне Шабаны, дзе існуе чатыры сярэднія школы.

24 верасьня 1998 г. бацькам было паведамлена, што адзіны беларускі клас расфарміроўваецца. Гэта было патлумачана тым, што ў класе ўсяго 10 чалавек і гэта «эканамічна немэтазгодна».

Бацькі вырашылі бараніць канстытуцыйнае права сваіх дзяцей на атрыманьне адукацыі на роднай мове.

Перспектыву вечнасьці для народа можа забясьпечыць толькі захаваная і развітая мова і нацыянальная культура.

Культура любога народа зьяўляецца каштоўнасьцю ў першую чаргу для яе носьбітаў. Бо нацыянальная культура — адзіны значны вынік гістарычнага жыцьця народа, які вызначае нацыянальную будучыню.

Пагроза для існаваньня беларускай культуры і мовы паўставала перыядычна. І ў гэтай перыядычнасьці былі свае заканамернасьці. Галоўнае — беларуская культура на працягу стагодзьдзяў захоўвалася, разьвівалася і адраджалася не дзякуючы палітычным варункам, а насуперак ім.

**ІНФАРМАЦЫЙНЫ АДЗЬДЗЕЛ «ВЯСНЫ-96»**

# Гісторыя касьцёла Сьвятой Тройцы ў горадзе Рэчыцы

. У 1903 годзе ў горадзе Рэчыца быў пабудаваны касьцёл Сьвятой Троіцы.

Касьцёл быў пабудаваны на сродкі мясцовых каталікоў і па праву належаў ім.

Пасьля Кастрычніцкага перавароту 1917 году, калі бальшавіцкія ўлады абвясьцілі барацьбу з рэлігіяй і новыя бязбожныя парадкі, будынак касьцёлаператварылі ў электрастанцыю. У гэтай якасьці храм існаваў да другой сусьветнай вайны.

Фашысты, як і камуністы адмаўлялі ідэалы хрысьціянства, таму пад час акупацыі ў рэчыцкім касьцёле была стайня.

Пасьля вайны будынак знаходзіўся на балансе вытворча-камерцыйнай фірмы «Кулінар». Пазьней касьцёл перадалі камерыцыйнаму прадпрыемству «Пралеска», і ў будынку разьмясьціўся бар. Там дзе калісьці ўзносіліся малітвы да Бога, пачалі разьліваць сьпіртныя напоі.



*Будынак касьцёла Сьвятой Тройцы*

У 1992 г. ў Рэчыцы аднавіла дзейнасьць рымска-каталіцкая суполка. Вернікі зьвярнуліся ў гарвыканкам з просьбай спыніць зьдзек над сьвятыняй і вярнуць храм для правядзеньня ў ім набажэнстваў.

Згодна арт. 19, ч. 2 закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях» рэшэньне па гэтым пытаньні гарадскія ўлады павінны прымаць на працягу аднаго месяца, а вернікі маюць пераважнае права на валоданьне храмам.

18.03.1993 года Рэчыцкі гарадскі Савет дэпутатаў прыняў рашэньне, што выканкам Рэчыцкага гарадскога Савета мусіць заключыць дамову з рымска-каталіцкай парафіяй аб парадку перадачы будынку.

З гэтага часу прайшло пяць гадоў, а ў будынку касьцёла Сьвятой Троіцы ўсё яшчэ знаходзіцца так званы «вітамінны бар», дзе на самай справе прадаюцца сьпіртныя напоі.

Варта адзначыць, што 1995 годзе касьцёл Сьвятой Троіцы быў унесены ў Дзяржаўны сьпіс гісторыка-культурных каштоўнасьцяў Рэспублікі Беларусь (ДЗІНАС №10-17/419 ад 22.12. 1995 г). Адпаведна, касьцёл трапіў у сферу дзейнасьць закона «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Гэты закон прадугледжвае перадачу касьцёла уладальніку для рэстаўрацыі і правядзеньня набажэнстваў (арт.80). Гэтым жа законам забараняецца і выкарыстаньне будынку сьвятыні не па прызначэньню.

Каталікі г.Рэчыцы неаднаразова ставілі перад органамі уладамі і кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь пытаньне: на якой падставе касьцёл быў перададзены для арганізацыі алкагольнага бару без дазволу Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў? Цалкам зразумела, што і закон «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыяў» і закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» абавязвае перадаць касьцёл уладальніку. «Мы гатовыя за свой кошт рэстаўраваць яго і выкарыстоўваць як храм, а не як бар!» — гавораць каталікі г.Рэчыца.

Пяць гадоў ня можа вырашыцца справа аб перадачы сьвятыні яе законным уладальнікам. Улады кожны раз знаходзяць новыя перашкоды для перадачы касьцёла вернікам. І няма ў гэтым нічога дзіўнага, бо такая пазіцыя мясцовых уладаў — толькі частка агульнадзяржаўнай палітыкі. Усе ведаюць: прэзідэнт РБ А.Лукашэнка заявіў, што славянскія народы павінны аб'ядноўвацца на аснове праваслаўя». У лютым 1996 г. ў лісьце да прэзідэнтаў Расіі і Украіны ён сьцвярджаў: «Праваслаўная царква заўсёды несла ў сабе ідэю саборнасьці, духоўнасьці, этнічнай цэльнасьці славян». Каталікі зьяўляюцца той часткай вернікаў, да якой прэзідэнт РБ ставіцца варожа, абвінавачваючы іх у палітыканстве. Нездарма ў Беларусі было прынятае рашэньне, якое абмяжоўвае прыезд у краіну замежных місіянераў.

Таму для тых, хто жадае выпіць гарэлкі, у Рэчыцы заўсёды адчынены бар «Вітамінны». А для тых, хто дбае аб душы, застаецца адно — працягваюць змагацца за свае правы і спадзявацца на Усемагутнага Бога, які ўсё бачыць.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**



*Цяперашні інтэр'ер былога касьцёла*

Андрэй Мельнікаў

# Вандроўка за краты

Старлей расьпісвае чарговыя фармальныя паперкі ў нашых з Алегам лёсах, і канвой вядзе нас да ІВСа (Ізалятара Часовага Утрыманьня).

Пры ўсіх перасоўваньнях па тэрыторыі часткі рукі затрыманых зьвязваюцца рамянямі да сьпіной. Ня ведаю, як іншым, а мне салдаты раз за разам вязалі нейкі хітрамудры звонку вузел, які на самой справе я мог разьвязаць у любы момант. Нехта з канвойнікаў пэўна і ня ўмеў правільна вязаць рукі, але большасьць, відавочна, рабілі з пачуцьця салідарнасьці. Хлопцы, як і мы, чакалі вызваленьня, а тут адбывалі свой тэрмін, хаця і са зброяй у руках.



Шлях ад дазнаваццеляў да ІВСа складае некалькі соцень метраў. Паабапал гаспадарчыя збудаваньні і маляўнічыя сосны. Уражаньне -- бы тут турбаза ці піянерскі лагер. Па акуратнай асфальтавай дарожцы даходзілі да доўгага белага аднапавярховага будынка з агароджанай тэрыторыяй перад ім. За агароджай сноўдаюць пагранцы, некалькі хлопцаў бозяцца з цэглай ля будынка. Тут рамяні з нашых рук здымаюць і праз металічныя дзьверы вядуць за трохмятровую сьцяну -- у тое, што ўласна і завецца ІВСам.

Гэта комплекс, які складаецца з часткі доўгага аднапавярховага будынка і дворыка, абнесенага з трох бакоў высокімі цаглянымі сьценамі ды накрытага зьверху металічнай сеткай.

Дворык. Амаль кзадратнай формы з плошчай прыкладна ў трынаццаць метраў, падзелены на дзьве няроўныя часткі такой жа металічнай сеткай па вертыкалі. Меншая, на чвэрць ад агульнай плошчы, — своеасаблівы калідор ад зьнешніх дзвярэй да ўваходу ў будынак. Тут жа знаходзіцца вартавы пад час прагулкі затрыманых. Пасярэдзіне лаўка ды чугунная сьметніца. Скрозь асфальт дзе-нідзе прабіваюцца кволыя парасткі травы.

(Працяг. Пачатак у №№15-16)

У будынку пакой для допытаў, пяць камер і санвузел. Кожнаму затрыманаму даюць матрац, падушку і коўдру. У некаторых камерах ёсьць яшчэ «гаўптвахтчыкі» -- ім такога не выдаюць.

Камеры аднатыпныя: два з паловай на паўтары метры. Дзьверы, абабітыя бляхай, з «кармушкай» (адкідной паліцай-вакенцам, дастатковай, каб зьмясьціць на ёй міску ці кубак). Над дзьвярамі -- лампачка за кратамі. Цьмянае сьвятло круглыя суткі. Уздоўж бакоў камеры — тапчаны з дошак, абабітых бляхай, шырыня якіх дастатковая, каб ляжаць на іх. Ну і трошкі месца, прыдатнага , каб, напрыклад, паставіць абутак.

Спачатку нас з Алегам месьцяць разам -- у камеру №2. Але толькі на некалькі хвілін. За гэты час вырашаем, што пойдзем на галадоўку, не адмаўляючыся ад чаю ці пустога кампоту. Пасьля -- маё перасяленьне ў № 4.

Адзінота. Засьцілаю тапчан, разьвешваю адзеньне: штармоўку, майку, джынсы.

І на гэты раз спакой нядоўгі. І мяне, і Алега вядуць у медсанчастку. Ветлівы і абыякавы доктар заводзіць на нас медкарткі, пытаецца пра скаргі на самаадчуваньне, былыя хваробы (і быццам бы запісвае), дазваляе папіць вады з-пад крана і памыць там жа рукі.

Паміж санчасткай і ІВСам -- яблыні. На адваротным шляху Алег зрывае некалькі яблык, з якіх дастаецца мне адно. Гэта наш апошні прыём ежы перад галадоўкай.

Ежу вартавыя атрымліваюць у аднолькавыя рандэлкі -- што для сябе, што для затрыманых. Так што калі ежа смачная -- галадоўшчыкі вельмі на карысьць астатнім. Нічога не магу сказаць пра смак пагранцоўскай ежы, бо не спрабаваў, але выгляд яе быў збольшага прыстойны і нават аднойчы прапаноўвалі малочны суп.

Нашыя стасункі з аховай складваюцца няблага. Сярод ахоўнікаў шмат аршанцаў і магілёўцаў. Першыя сімпатызуюць мне як земляку (што праяўляецца ў больш працяглых прагулках, а аднойчы -- у трайной дозе гарбаты). Большасьць другіх не хавае дваровага выхаваньня з крымінальным ухілам. Адзін да аднаго яны зьвяртаюцца выключна на «клікухах», а затрыманым робяць ўсемагчымыя паслабленьні, апрача ежы. Частка магілёўцаў вызначаецца своеасаблівым эканамічным мысьленьнем і прэзідэнтскім патрыятызмам. Іх лёгка можна "купіць" за цыгарэты і атрымаць дадаковыя прагулкі. Мне перадач ніхто ня робіць, таму аднойчы даводзіцца бязвылазна прабыць у камеры шаснаццаць гадзін (з васьмі вечара да дванаццаці дня) пры адсутнасьці ў камеры «парашы».

На новым месцы мне сьпіцца добра. Ціха, суха, жамяра не данімае. Ранкам, калі выводзяць да санвузла, раблю невялічкую пасьціжуршку і абдаюся да пояса вадой з-пад крана.

12-га жніўня на ІВС пасяляюць ажно шасьцёх затрыманых. Адзін трапляе ў маю камеру. Высокі, худы, трохі маладзейшы за мяне. Прыносіць з сабой пэўную нязручнасьць, бо паліць. Паветра ў камеры адразу робіцца цяжкаватым.

Пакой вентылюецца толькі калі адчынены дзьверы ці «кармушка», а гэта -- рэдкасьць.

Знаёмімся. Сусед не супраць пагаварыць.

Усіх шасьцёх затрымалі ў Каменным Логу (знакаміты пункт на мяжы з Літвой у раёне якога вёў здымкі Шарамет) пры ўдзеле сьпецбрыгады з Мінска. Спецназаўцы дзейнічалі ў масках, паводзілі сябе жорстка і рабілі відэаздымкі. Майго сукамерніка выклікала з хаты ў двор уласная маці, там яго і ўзялі. Такім жа чынам былі затрыманыя яго брат, сусед, госьць з Літвы і знаёмыя з Ніжняга Ноўгарада. Госьці везьлі ў Літву на продаж гаечныя ключы, якія ім, за адсутнасьцю грошай у прадпрыемства, дзе яны працуюць, выдаюць у якасьці заробку. Мой сукамернік усю ноч праседзеў у аўтамабілі, прышпілены «браслетамі» (наручнікамі) да руля, як і астатнія бедалагі. Аднаго з расіян доўга і моцна білі, бо ён паспрабаваў супраціўляцца.

*(Працяг будзе)*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Рэдактар Алесь Бяляцкі.
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail: rights@v96.open.by

У нумары скарыстаны малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіва Камітэта "Вясна-96"